Цана асобнага № 30 кап.

# Вольная Беларусь

Тыдневік палітычны і літэратурны.

**Умовы падпіскі:**
На год...... 12р. —
Напоўгода.... 7р. —
На 1 мес..... 1р. 50к.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** г. Мінск Захараўская, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

Год выдання II.

Ніхай жыве Нізалежная Беларусь!





№ 24. 1918 г. 30-го чэрвеня 1918 г. № 24.




## Да нашай краевай інтэлігэнцыі.

(*Адкрыты ліст.*)

Ніжэй паданы ліст прысланы у рэд. віленскай беларускай часопісі «Гоман» праз ведомаго прэдстаўніка валікіх земляуласьнікау, п. Казімера Шафнагеля с Купіэин, Ашмянскаго пав., які праз усе свае жыцце займау нінарушна пічыра краевае становішчо, як сын зямлі беларускае; цяпер жа, калі надыйшла для Беларускаго народу хвіля чыннаго выступлення, распачау працу у беларускай справі, як беларус. Ліст пісаны па-польску.

*Рэдакцыя.*

Надыйшоу час, час надзвычайны, час, які можа у гісторыі другі раз ні надарыцца для нішчаснаго, страціушаго сваю дзяржаунасьць, пакінутаго сваімі звычайнымі кіраунікамі—сваею інтэлігэнцыей і сваім духавенствам,—беларускаго народу. Заклікаиы гэты беларускі народ для выяулення сябе, свае будучыны, для сьведчэння, што ен есьць, што жыве,—да выяулення сваіх нацыянальных і палітычных пажаданняу.

Але які ж страшэнны трагізм! Гэты беларускі народ, які, як і кожны іншы народ, павінен складывацца з некалькіх столак грамадзянства: з масы народнай—селянскай і работніцкай і с клясау меньшых па ліку, але дужых эканамічна і культуральна а сьвидомых нацыянальна, клясау абыватэльства (земляуласьнікау, Рэд.), мешчанства і клясу людзей свабодных прафэсій,—гэты беларускі народ складаецца сягоння з агромністай, у большасьці ніасьвечнай, масы селянства і работніцтва, у большасьці малаграматнай, нісьвядомай нацыянальна, каторую падашуківалі дагэтуль народнасьці панluючыя над ей палітычна, або культуральна, ці эканамічна.

Бо гэты народ беларускі есьць сірата, бедны, цемны, безбронны сірата, пакінуты праз сваіх сапраудных бацькоу—сваею інтэлігэнцыею.

І калі прышла страшная гістарычная навальніца, калі прагавітыя суседзі вышчырылі зубы, каб гэты беларускі народ праглынуць і у канец сьцерці яго з аблічча зямлі, калі, адначасна з гэтым, дзякуючы шчасьліва паустаушым варункам, усьміхнууся гэтаму народу, праўда, слабы іпчэ праменьчык надзеі нацыянальнаго і палітычнаго адраджэння,—у гэткай рашучай хвіліне гэты народ-сірата стаіць вось безбронны, як смачная спажыва для кожнаго, хто толькі узяць захочэ, каб яго зьніштожыць, забіць нацыянальна, праглынуць!

Дзе ж гэта сапраудная апякунка і кіраўніца кожнаго народу, яго інтэлігэнцыя? Якім жа дзіуным, трагічным спосабам асталося толькі цело гэтаго народу? А куды ж падзелася галава?

Ах, бо інтэлігэнцыя гэтаго народу у сваім часе за сорак срэбнікау (шляхоцкія прывілеі і прыгон селян) выраклася свайго народу, уласны народ свой здрадзіла, прымаючы чужую для гэтаго народу мову, культуру і палітычны ідэял. Народ беларускі зрабіуся сіратой, бо інтэлігэнцыя, яго вышэйшыя станы памерлі для яго нацыянальна, апалячыліся, зрабіліся чужымі для гэтай масы народнай, з якой ад веку цягнуць жыццевыя сокі.

І раз пачаушыся раздзел давау што раз большыя скуткі, што раз глыбей капаючыя пропасьць паміж народам беларускім і яго апалячанай інтэлігэнцыяй, бо народ беларускі, пазбаулены станау культурных уласных, нацыянальных,—астанавіуся на ступені свайго пачатковаго развіцця, са сваей «простай»—як ен сам яе пакорна называе—мовай, са сваей нацыянальнай нісьвядомасьцю, якая выяуляецца у тым, што ен нават ні ведае, хто ен такі, чым ен есьць у істоці сваей, і калі ен католік, то, запытаны, кажэ: «польскі», а праваслауны—«рускі», ні раздзеляючы нават тых двух разуменняу кардынальных—рэлігіі і нацыянальнасьці, калі загубіу нават жаданне уласнай дзяржаунасьці, уласнай нацыянальнай нізалежнасьці.

Інтэлігэнцыя гэтаго народу, яго «абыватэльство», яго духавенство, яго мешчанство прыняушы чужую, але багатую польскую культуру, з яе пышнымі здабыткамі, традыцыяй, літэратурай і ідэялами, вабючымі тысячмі барвау воко, сэрцо і душу, і унесшы у скарбніцу гэтае чужой культуры багаты уласны заработак, злажыушы на ахвярным алтары польскасьці найбагатшыя праявы уласнаго народнаго гэнія, (Міцкевіч, Кандратовіч, Оржэшка, Касьцюшка, Манюшка, Сенкевіч і др.) даушыя польскаму народу львіную часьць таго, чым ен цяпер пышыцца, як сваім найбольшым і найпякнейшым дабром,—гэтая апалячаная беларуская інтэлігэнцыя пагардліва пазірае сягоння на гэты народ, з якога паустала, як той селянін, каторы, здабыушы дастаткі і багацце, пабудаваушы сабе палац на мейсцы нібагатай бацькаускай хаты, прыбраушыся у багатыя шаты і прыняушы «панскія манеры», стыдаецца свайго мужычаго роду і с пагардай пазірае на сваіх братоу, што у селянскай асталіся хаці, а што больш і што страшней—ужо іх за сваіх братоу ні прызнае, вырэкаецца іх і стыдаецца свайго роду.

І, калі запытаеш: хто ты, пане, што тут, на Беларусі, з дзядоу-прадзядау жывеш, што носіш беларускае прозьвішчо, або хоць і польскае, ці с польскай акцэнтацыяй, то многімі вузламі крыві с каранным тутэйшым народам ад веку зьвязаны, з гэтае зямлі радзімай, з гэтаго краю так самабытнаго, з яго палеу, садоу і лясоу кабіраючы свае уласныя жыццевыя сокі; пан, які з дзеда-прадзеда с тутэйшым народам знаходзішся у пастаянных суседзкіх зносінах, які с працы гэтаго народу здабываеш дастаткі. да якога гэты народ так пясьціва, па-сыноуску, пачціва і міла прамауляе: «панок, паночак», як-бы мімавольна шукаючы у «пану»—апекуна, бацькі; пан,—паутараю,—запытаны, хто ен, адказуе: «я—паляк!» Барані Божэ ні беларус: фэ, гэта зычыць так па-хамску, гэтак кампрамітуючы, гэта б пярэчыло яго традыцыям, ідэялам і мінуушчыні!

І вот трагізм становішча! Народ беларускі мае уласную інтэлігэнцыю, але польскую.

Два адзельныя сьветы, дзьве мовы, дзьве традыцыі, два сьветапогляды, дзьве арьентацыі.

І гэты трагізм іпчэ павялічваецца тым, што мейсцовае духавенство, радзіушыся у гэтым краю, часта дзеці гэтаго народу беларускаго. або беларускай апа-

лячанай шляхты, часта беларускія празьвішчы меняючае, аддзялілося ад гэтаго народу, і калі запытаешся: хто вы такі?— «Чуюся палякам»,—адказывае ксендз.

І вось, нішчасны селянін беларускі ані у сваім «панку», ані у сваім ксяндзу ні знаходзе ужо брата. Пан і ксендз прамауляюць да яго ні «простай» мовай, але мовай «панскай», культурнай, мовай польскай. Пан і ксендз за найсьвяцейшы народны абавязак уважаюць апалячэнне гэтаго селяніна-беларуса праз касьцел, праз школу, а калі удасца, то і праз судовыя і урадавыя установы, урэшці—як найвышэйшы ідэал—праз польскую дзяржаунасьць.

Чым жа вы, апалячаныя беларусы, лепшыя ад пагарджаных вамі гакатыстау, або русыфікатарау? Супыніцеся! Ці ні у сто раз вы горшыя за іх, ці ні заслужываеце вы на назву адступнікау ад уласнаго народу, здраднікау свайго народу?! Бо калі гакатысты, або русыфікатары прыходзяюць з надворку, як уладу імучыя, хочучы забіць нацыянальна той, ці другі народ, то у замен яму прыносюць спрычыненне да вялікай карысьці, якую прылучэнне да моцных палітычна, або культурна дзяржауных арганізмау дае памершаму нацыянальна народу. Вы, апалячаныя беларусы, адступнікі ад уласнаго краю,—краю, с катораго вы паусталі, сырод катораго істнуеце,—бо хочыце свой уласны народ забіць нацыянальна, накінуць яму чужую дзяржаунасьць замест таго, каб памагчы яму утварыць уласную, хочыце накінуць яму чужую мову, якая для вас сталася уласнай, бацькаускай.

Ядыным заданнем цяперашняго часу для стаушых на шлях адраджэння Літвы і Беларусі есьць карыстанне с палітычнай коньюктуры, будаванне уласнаго дому, уласнае дзяржаунасьці. Літвіны ужо узяліся за гэтую работу, маючы у гэтым шчасьліушую долю, што раней, ні зьвертаючы увагі на сваю апалячаную інтэлігэнцыю і паміма яе, здолелі утварыць хоць нівялічкі гурток уласнае народнае інтэлігэнцыі, прычым, духавенство літоускае адыграло німалую патрыятычную, хоць можа і занатта рэакцыйна-народную, ролю. Беларусы знайходзяцца у горшым становішчы, як я у пачатку казау,—становішчы трагічным. Народ беларускі у інтэлігэнтных народных сваіх столках прэдстаулены гарачым мілаваннем да справы пранятым, але ішчэ нялічным гуртком людзей, большасьць жа яго радзімае інтэлігэнцыі,—апалячаныя паны і духавенство—стаяць, як здэкляраваны вораг, пільнуючы сквапна кожнай праявы беларускае нацыянальнае сьвядомасьці, адкуль бы яна ні ішла—з гары, ці з нізу,—каб яе прыдушыць у пачатку.

Трагічнае, сапрауды, становішчо гэтаго народу сіраты у момэнці, калі льос яму усьміхнууся на хвіліну, у момэнт, калі шансы на здабыцце загубленых перад векамі прыродных правоу: маліцца да свайго Бога у матчынай мові, здабыць уласныя інстытуцыі самаупраўау, а што важней—пэрспэктывы уласнай, народнай, спрад-веку загубленай, дзяржаунасьці. Каб гэта усе адтрымаць, трэба інтэлігэнтных сілау, якіх есьць так німнога, а хвіліна нівыкарыстаная можэ ніколі ні вярнуцца. Народ беларускі патрабуе, каб яго усьведаміць, каб адчыніць яму вочы на прауду вялікую, якая побач з ім стаіць, а ен яе ні бачыць, на тую прауду, што гэты народ есьць народ беларускі, ні польскі ці расійскі, і які, як і кожны другі народ, мае сваю радзімую мову, якая спрадвеку была яго дзержаунай мовай, што народ гэты так сама мае права на самаадзначэнне, на утварэнне уласнае, самабытнае, нізалежнай дзяржаунасьці, што пара на гэта прышла, што гэту пару павінен выкарыстаць пад страхам загублення яе на зауседы.

Хто ж скажэ яму гэтыя прауды, хто прабудзіць гэты народ, хто пакліча яго да працы?

(Канец будзе).



# На біблійны лад.

### Псальма XXIX.

Голас Бога—у кліках лясных бураломау,
Голас Бога—у велічы гулкаго грому;
Голас Бога—у полымі вогнішч вялікіх,
Голас Бога—у хвалях прыгожых і дзікіх.
Голас Бога—у песьні малітвы адвечнай,
Голас Бога—у волі сьвятой безканечнай.
Голас Бога істнуе ад века да века,
Голас Бога жыве у душы чэлавека.

### Псальма CXVI.

Нябесы для Бога, зямля для людзей.
Ні чэкай шчыр-малітвы з магілы,
Дык будзем ад сэрца маліцца шчырэй,
Пакуль шчэ жывем, маем сілы.
За сонца праменні, што ярка блішчаць,
За месяц, за зоры у ночы
Павінны мы гімны бяз конца сьпеваць,
Да неба падняць свае вочы.
За травы, за рэчкі, за воблачны рух,
За шчасьце зямлі—нашай маці
Павінен да высі ляцеці наш дух,
Каб Ойца жыцця выхваляці.

### Псальма LXXXIX.

Па што Ты нас кінуу, Гасподзе Вялікі,
Зрушыу Свой завет пастаяны?
Ні песьні пяем мы—то-ж стогны і крыкі,
У нашых грудзях адны раны...
Ты радасьці нашы у попел развеяу,
Ні знае душа асалоды,
Ты прашчурау скарбы мякінай разсеяу
І зганіу іх праунукау роды...
Жабрачай сямьею стаім у трывозе,
Нас с кпінамі усе абступаюць;
Спаткаем мацнейшых братоу на дарозе,—
Апошнюю торбу зьдзіраюць...

### Псальма LXII.

О, Божэ, у гневе мяне ні карай,
У злосьці вялікай мяне ні чапай,—
Ні маю усе роуна шчасьлівай мінуты,
Мяне агарнулі цяжкія пакуты...
І сэрцо замерло ад вечнай жуды,
Іду я, іду я,—ні знаю куды...
Грэх Каіна жаліць збалелыя грудзі,
Ні знаю на далей са мною што будзе.
І нават у ночы, у забыцці, у сьне
На міг супакою німа длі мяне.

### Псальма CXIX.

Тлумач мне, о Божэ, законы Твае.
Па іх правяду шлях жыцця,
Па іх пакірую жаданні свае,
Па іх буду жыць да канца...
Вярні мае сэрцо да прауды сьвятой,
Вярні да крынічнай вады:
Тады жа знайду я душы супакой,
Тады буду жыць без бяды.
Кіруй мае вочы на яркі прамень,
Тады стану верай багат;
Тады зьнікне горо навекі, бы цень,
Тады буду шчасьліу і рад.
Купай мае думкі у творчым агні,
Адвагу бязмежную дай;
Я сьмерці баяцца ні буду ані—
Ні сьмерць,—усюль жыцце, вечны рай...

### Псальма LX.

Чаму ты, Ойчэ, нас пакінуу
І ні аставіу нам апоры?
О, дух любові раптам згінуу,
Упало шчасьце у глыбі мора.
Увесь сьвет пакутны у цяжкіх ранах,
І трунак горкі пьюць народы.
Праменні сонца у туманах:
І сеюць гібель, сьмерць паходы.
Аставіу бацька малых дзетак,
Пакінуу край свой мілы, родны;
Ратай аставіу свой палетак.
Пайшлі.—Ні прыдзе з іх ніводны...

### Псальма XCI.

Як Бог стане вечнай тваей абаронай,
Тады згодна будзеш ты жыці;
Табе стануць вольны чатыры староны,
Ніколі ні будзеш тужыці.
Паунечная сіла палохаць ні будзе,
Паудневыя стрэлы ні згубяць,
Сустрэнуць на шляху ці зьверы, ці людзі:
Цябе ні зачэпяць—палюбяць.
І босыя ногі на'т скалка ні зраніць,
Вужака адступіць з дарогі.
У шчырыя вочы твае калі глянець,
Сыт будзе без хлеба убогі.
Цябе ні атруцяць пякельны пакусы,
Ні зганюць благія гаворкі
І ні заналонюць кайданы-прымусы,
Бліскучыя вочы, як зоркі.

### Псальма CIV.

Хвалі, душа мая, Стварыцеля Сьвятога,
Што абагаціу сьвет адвечным харастом,
Што зьяннем акрапіу да шчасьця пуць-дарогу,
Што небам атуліу абшары, як шатром.
Сярод блакітных хваль уладзіу сабе хорам,
Над хмарамі у высь імчыцца без мяжы,
Кіруе пярупом, кіруе Ен віхорам,
І полымю-агню Ен ставіць рубяжы.
Магутны грунт зямлі—то рук Яго тварэнне,
Земля паміж планэт зіяе, як гвязда.
І кветкі у глыбі чаруюць расьцьвіценнем,
У вышцы на гарах імчыць, цячэць вада,
І месяц знае час і квадры і раздзелы,
І сонцо знае час, калі на сьвеці зьяць.
У ночы ходзіць зьвер у пушчы апалелы,
У дзень ратай ідзець на поле працаваць,
А верная жана пад роднаю страхою
На вогнішчы яду гатовіць для сямьі,

залі: «Наш чалавек.» А Пархвен, расчырванеушыся, хадзіу паміж народу і хваліу вучыцеля: «А што, ці н мая праўда, што усе людзі роўны?.. Я ні раз казау, што і я, хоць і скончыу двухкласнае, аднак жа ні запанеу і са звычаеу нашскіх ні сьмяюся, а люблю іх. Я, як і усе людзі, са усімі і гарэлку пью, і у карты гуляю, і на вяселлі хаджу. Вот я і вучыцеля прывеу. Каб ні я, можа б ен і ні пайшоу А я і с панамі пан і з мужыкамі—мужык.» Вучыцель, стаміушыся, запыхаушыся, з мокраю лысінаю, с хадыром у галаве, адыйшоу са сваей дзяучынаю у гурток маладых і, махаючы ей і сабе, пад носам, хвусьцінячкой, заікаста казау да яе: «Ты толькі будзь, Гануся, такая, як твой вучыцель; жыві так, як еп усягды вучыу цябе,—і усягды і усюдых табе будзіць ладно.» Ганна саромліва апусьціла вочы, ніузнаку адхілялася ад паху гарэлкі, с ніцярплівасьцю ждала, калі ен адойдзіць ад яе, а сама уцеч ні сьмела.

Пакуль ішла у іх размова, да кругу штурхалася сярод людзей Петрачыха, цягнучы за руку сваю мауклівую нявестку:

— Пойдзем, пойдзем, мая рыбухна! Разам працуім, рабам паскачым. Ніхай палюбуюцца добрыя людзі, як мы гуляім.

І пусьцілася старая задам, скачучы, як сарока; пляскала у ладкі і вясёлымі агенькамі пільна угледалася на маладзіцу, а тая, падхапіушы крайчык свайго фартуха, а другой рукою плаўна махаючы ля галавы, плыла за сьвякровай с чуць прыкметнай усьмешкаю, у якой пауседная ціхая пакута ішла цяпер на сустрэч весялосьці і паддавалася ей.

Старая запела:

А мір з міром міраваліся,
Са свякрухаю пявехна цалаваліся!

Маладуха падхапіла:

— Матка ж мая старэнькая,
Як галубка сівенькая!

Пятрок распіхау усіх, падыйшоу бліжэй і прыемна казау:

— Люблю... ды й люблю—ж! Ай, ды бабы мае! Ведай Петраковых!

VI.

Ціха і марконта было зрання. Суметамі белымі, белымі, сіневатымі, касымі і з вісокімі, аж да страх, грэбнямі замела, засыпала завіруха маўкліва-акалелыя хаты за доугую, завірушную ноч.

Бязковцыя, цемнаватыя досьвіткі развеяліся у шэрае ранне. Скрыпаіць да студні сьнег. Запела, захрыпела, як пансаваная дудка, замерзлая вага. Ляпнулі ведры. Папурыя гнядыя коні выйшлі за вароты і стаялі доуга лі замету. Заблеяла у нішчыльнай пуні ауца; крутнула яна хвосьцікам, пюхнула і потым лізнула дрыжачаго, ні абсохлаго ягненачка з замерзлымі белаватымі вушкамі, што акаціуся пад сьвет. Гаспадыня у лапленай кохці, са зьбітаю на-бок хвусткаю, закручанаю нібы турэцкая чалма, у-поцемку, стала сыпаваю да шчэлкі у сьцяне, адкуль веіць снегавым пылам, і чырвонымі ад стужы, карэлымі ад працы рукамі трасець над паскудною ауцою і дробным ягняткам дзіравае рэшато і з роту пырскаіць, скрозь яго, свянцонаю вадою.

А у тым канцы хат, уверсі па-над стрэхамі, пацягнуўся белаваты дым с коміну і разбегаіцца у марозным, развіднеушым паветры, навокал застыглаго венца бярозы у белым убранні з бліскучых сьняжынак.

Ныраючы у заметах, выйшоу з-за вугла табунок дзетакўвучанічкоу с торбачкамі, у якіх кніжкі.

Так паціху, паволі, спахваля пачынаіцца зімовы дзень будняу.

Ну, нічога: зараз масленка!

**М. Горэцкі.**

(Канец).



# Сымон музыка.

**Казка жыцця.**

Часьць чацьвертая.

II.

— Унь і замак, унь—дзьве вежы!—
Пугаўём матнуў хурман:—
Тут даўней быў лог мядзьвежы,
Дзе вадзіўся дзік—кабан,
І зубрэ пладзіліcь, сарны,
Лес канца сабе ні меў,
Ды й яму прыйшоў час марны...
Сьвет ні той цяпер—здрабнеў!—
І ўздыхнуў хурман старэчы,
Часаў глыб ўзварушыў,
І узьняў старыя плечы
Ды прыцмокнуў, ўзгаласіў:
— Гэй, вы, коні! што прысталі?!—
Лейцы ён падцяў, ўзмахнуў,
Коні шыі заламалі,
Бы агонь іх жахануў,
І панесьлі! Брычка скачэ,
Сумна бубенцы зьвіняць...
То мо' песьня ў іх бедача,
Доля горкая чуваць.
А Сымон адняць ні можа
З вежаў замкавых вачэй,
Што пануюць, ўзняўшысь гожа,
Над акругаю усей.
Пазалота іх бліскае,
Вечар ў вокнах іх гарыць
І праменні адбівае,
Бы ад сьмеху ён дрыжыць.
Хто ж выводзіў тыя вежы?
Хто той замак будаваў?
Пазлацоныя адзежы
Хто для сьцен яго саткаў?
Чые рукі з мазалямі
Тут зьняслі сває дарэ?
Потам, кроўыю і сьлязамі
Спэмэнтованы мурэ.
Ды затое жа салодка
Іх ўладарцы ўсе жылі!
Мор і голад і паводка
Іх спалохаць ні маглі,
Як і той сьвет ні палохаў,
Бо за іх касьцёл стаяў,
І ў маленню ксёндз са ўздохам
За іх небо праблагаў.
А яны жылі, дурэлі,
І адзін перад другім
Вытыкаліcь, як умелі,
Чым бы выславіцца ім.
І вот князь адзін надумаў,
Каб праехаць усіх пышней
І найболей узьняць шуму,—
Выслаў цукрам для саней
Летам пуць ён, і мядзьведзя
Заміж коней ён запрог.
На кірмаш у санях едзе,
Робіць там перапалох.
Коні пудзяцца на рынку
І бьюць галавы аб мур,
І такую ўцяў валынку,
Што й цяпер той помняць дур.
Вот гара. Прыціхлі коні,
Колы рэжуцца ў пясок,
А з гары, як на далоні,
Перш півідны гарадок
Прэд вачамі выпікае
Весь у зеляні садоў.
Як усьмешка, луч блукае
У вокнах касьцялаў, царквоў.
Ніпрыветна выглядаюць
Пабеляныя мурэ.
Мусіць там кватэру маюць
І жывуць паны ў дабрэ.
І страх нейкі безпрычынны
Душу хлопчыка абняў,
Бы ён руку самачынна
На той горад падымаў.
Адзіноту і пустэлю
Больш яшчэ пачуў Сымон.
І на вопта ён тут цэліў?
Спадзеваўся на што ён?
Ці ж яму, палёў дзіцяці,
Сыну лесу і дарог,
На дарозі панскай стаці?
Жыць у замку, гарадох?
І ні лепей бы ў дарогах
Кнігу Божую чытаць?
На прыволлі, па разлогах
Гожасьць сьвету пачуваць?
І ў Сымонкі прэд вачыма
Усталі родныя куткі,
Хата бацькава, радзіма,
Жыцця раніпы дзяпькі...
І якая гэта доля—
Ласкі маперы ні знаць,
Казкі, песьні свайго поля
На чужыя памяняць?
Ды ці ж ў гэтым ён—прычына?
Мусіць Бог адзначыў так;
Мы ж у сьвеці—пыл, націна,
Нейчай волі дробны знак...
А, тым часам, коні гулка
Бьюць па бруку капытом;
Вот масточак і рачулка,
Бераг зросшы чаратом.
А там, збоку, як талерка,
Ціха кругліцца, блішчыць,
Зьяе возеро—люстэрка.
На тым беразі стаіць
Старасьвоцкі замак хмуры,
Валы грозныя відаць,
Вежы з бойніцамі, муры,

толькі паміж Беларусьсю і вялікарускай Советскай Рэспублікай.

**Беларуская граматыка.** Есьць ведамасьці, што беларуская граматыка, напісаная маладым нашым філёлёгам Б. Тарашкевічам, ужо пачала друкавацца у Петраградзі. Састаўленая над рукаводствам такіх знаўцаў беларускае мовы, як акадэмік А. Шахматаў і проф. Карскі, яна будзе найлепшай спробай беларускай граматыкі, напісанай навукова. За хібнасьцю у Менску і у другіх местах Беларусі патрэбных для беларускаго друку літэр, аўтар змушан быў аддаць яе для друку у Петраград.

**«Вільня—место штукарства».** Пад такім тытулам зьявілося нідаўна у Вільні пекнае выданне, кніга прыват-доцэнта Вебера. Кнігу гэту нідаўна адтрымала Расійская Акадэмія Навук і вельмі зьдзівілася як малым коштам, так і зграбнасьцю яе выдання.

Кніга дае шмат аўтатыпаў і зьнімкаў нямецкіх фотографаў. Асобнае мейсцо у кнізі займаюць старасьвецкія віленскія цэркві, і першым чынам адбудованы у готыцкім стылю Бэрнардынскі касьцел.

Пераглядзіўшы гэтую вельмі цікавую кнігу, прыходзіцца сказаць, што расійцы у працягу сталецця ні зволалі зрабіць і дзесятай долі таго, што зрабілі немцы за два годы. З абвесткі, даданай да кнігі, відаць, што тое самае выдавецтво у хуткім часі мае выпусьціць падобныя іллюстраваныя кнігі аб другіх забраных мейсцох Беларусі.

**З Одэсы.** 12-го красавіка на агульным сходзі упекачоў-беларусаў у м. Одэсі Усерасійскі аддзел «Бежэнскаго Комітета», дзякуючы значнай пераваге у ім упекачоў-беларусаў, перанайменаваўся у Беларускі Камітэт. 14-го мая, у зьвязку с перанайменаваннем, адбыліся перавыбары выканаўчаго органа.

**Рэформа Беларускаго друку.** У Брэславі вышла кніжка: «Просты спосаб стацца у кароткі час граматным.» Кніжку гэту напісалі: проф. д-р Рудольф Абіхт у Брэславі і Янка Станкевіч у Вільні. Кніжка мае на мэці пазбыцца у беларускім правопісе [лацінкаю] нірацыянальных перажыткаў, прымаючы пад увагу асобнасьці беларускае мовы. Рэформа гэта тоўпіцца у тым, што вялікія літэры саўсім ні ужываюцца, зьмякчэнне складаў робіцца кропкай над сугалоснай літэрай, замiж *дз* і *дж* уводзяцца новыя літары і т. д. Рэформа беларускаго друку назрэла, але сказаць што нібудзь пэўнае аб кніжцы проф. Абіхта, ні маючы яе перад сабою, трудна. Адно мусім зауважыць, што розныя кропкі над літэрамі ні рэформуюць друку, а толькі псуюць яго.

**Беларускі гуртон у Маскве.** У Маскве залажыўся беларускі культурны гурток, маючы па мэці пазнаннe Беларусі. На чале гуртка сталі: проф. Любаўскі і п.п. Пічэта, Шымановіч, артыста Качалоў і др..



## Бяда.

Думкі-думкі, ні званеце
Вершам, нібы звонам,
І да зоркаў ві манеце,
Душучы прыгонам!
Даўно мною заўладалі
Усёй маей душою,
Долю й лёс вы мой зьвянчалі
З вечнаю цішою.
Ніспакойны, заляцаны,
Бедны назаўсёды,
Я, нядоляй абсьмеяны,
Ні ведаў выгоды.
Мусі матка на пакуту
Мяне нарадзіла
І мне ў душу, як атруту,
Ліру залажыла.
Дык гудзе, сьпевае ліра
Людзям на трывогу,
Будзіць, клічэ усюды шчыра
Усіх на дапамогу.
Але сьпіць народ убогі,
Праданы панамі,
Звоніць, зьехаўшы з дарогі,
Цемры кайданамі.
Ад яго на'т адхіліуся
Шляхціц абадраны,
Да вельможных прытуліўся,
Як халоп-падданы.
Давучыўшыся да школы,
Выракшыся мовы,
Напіскае па «глаголы»
Вучыцель вясковы.
Гэй, вы, думкі! дзе вас кінуць,
Ценжару пазбыцца?
Калі ж час прыдзе загінуць
Ды пра ўсё забыцца?..

**Макар.**

## Наша доля.

На небі у нас заўсёды хмары,
Туманам віснуць над зямлёй;
Тут млее усё ад летняй пары,
У дрыготках курчыцца зімой.
Бывае інады і сьпёка—
Пажоўкнуць нівы без пары,
Ссыхае ўсё, як бачыць воко,
І глуха робіцца у бары.
Бываюць громы з навальніцай,
Пярун, узлаваўшыся, гудзе,
Грыміць, зяхае бліскавіцай,
Як па зямле, так па вадзе.
А то і град сыпне, часамі,
Сьцярэбіць нівы і сады.
Але ні дзіво — цёгля з намі
Гатункі розныя бяды.
Такі ужо край, зямля такая,
Што ні вядзецца ёй ніяк,
І кожан лепшаго чакае,
Праз сілу робячы, бедак.

**Крауцоу Макар.**



## Маленькі фэльетон.

**«Скрыпты шовіністы.»**

— Добры дзень, пане рэдактару!

— Дзень добры, пане Адаме!

Ад рэдактарскаго «дзень добры» панесло холадам. Рэдактар—далікатнейшы чалавек—на гэты раз ні устаў, ні пакланіўся і ні папрасіў нават сесьці, як ён рабіў заўсюды, а мая працягнутая рука спаткалася з некім мяккім, млявым поціскам. Я аднак удаў, што нічога ні разумею.

— Ось я прынес тут... пачаў быў я.

— А, ізноў пан прынес!—сказаў рэдактар, націскаючы на слові «ізноў» і ні даючы мне гаварыць,—добра, добра!..

Я так і астаўся стаяць з вынутым с кішэні рукапісам.

Рэдактар ні адхіснуўся нават ад некаго рукапісу, німіласэрна яго касуючы чырвоным атрамэнтам. Я заніпакоіўся. Калі ласка, кажу, вазьміце, пане, рукапіс і скажыце, ці будзеце друкаваць, ці не, бо я павінен ісьці.

— Не, друкаваць ні будзем!—хмура буркнуў рэдактар, ні мяняючы постаці за сталом.

— Што, пане? Ні чытаўшы, ні глянуўшы нават на рукапіс і—ні хочаце друкаваць?!

— Рукапіс я бачыў, а друкаваць ні будзем!—сказаў злосна рэдактар ды павярнуўся ка мне у крэслі.

— Вам здаецца, пане Новадворскі, што гэта так проста: узяў напісаў, аддаў і надрукавалі? І толькі? Гэта лёгка вам думаць, калі вы прышлі, зьвякнулі шпорамі ды пайшлі. А вот пасядзелі-б на маём мейсцы, то падумалі-б, чаго варта друкаваць вашыя «Скрыпты»! Не, не! Мы—ні шовіністы. Наш орган дэмакратычна-нацыянальна, але ні...

— Нічога, паночку, ні разумею!

— Пан ні разумее? А гэта пан бачыць?

І пан рэдактар адчыніў шупляду і выкінуў на стол цэлую пачку некіх лістоў.

— Пан бачыць?

— Што гэта, пане?

— Лісты, васпане! Звычайныя лісты с нізвычайным зьместам. Памятаеце, пане Новадворскі, што вы пісалі у «Бе-

ларускім Шляху»? «Польскі ожэлок—мокрая курыца»? Ну, дык вот гэта усё одгукі на панскае пісаньне...

— Але ж, пане рэдактару, «Беларускі Шлях» бачыў, што ён аддаваў да друку?

— Бачыў, бачыў!—перабіў мяне рэдактар.—І я вось бачу і кажу, што друкаваць вашых «Скрыптаў» ні буду. Ні хочу чытаць вось гэтакіх лістоў. Наш тыднёвік...

— Ну, калі так, то кладу свой скрыпт у кішэню і—баста, сказаў я.—Але, ці ні знойдзе, пан, хвілінкі, каб так са мною пагаварыць?

— Калі ласка, калі ласка! Проша пана!..

І пан рэдактар раптам ажывіўся, падсунуў мне крэсло і прыгатаваўся слухаць.

— Што па-вашаму, пане рэдактару, цяпер робіцца ў Расіі?

— «Умомъ Россіи не обнять, ее аршиномъ не измѣрить», адказаў рэдактар вершам славянафіла Аксакова.—Ліхо яго, пане, разьбярэ, што яно там чаўпецца!

— А ці зьвярнуў, пан, увагу на тыя сілы, якія становяцца цяпер на чале урадаў ва ўсіх так званых «нізалежных дзяржавах»? На Украіне, на Дону, у Сібіру.—га?

— Ну, дык што?

— А тое, што ў гэтым увесь цымус сучасных падзей. Заўваж, пане: у Крыме урад Сулікоўскаго злажыўся з элемэнтаў правей кадэтаў; у Кіяві меськай гаспадаркай распараджаецца «кастрычнік» Дьякаў, урачыста сустрэчаецца на Украіне Трэпаў; на Дону—генэрал Красноў, у Сібіру—адмірал Колчак.... Адны прозьвішчы гэтых нацыянальных міністраў чаго варты! Усе, як на падбор, маскоўскія цэнтралісты. Дадуць яны па карку федэратыўнай і запануюць зноў ад імя Расійскай імпэрыі.

— Ха-ха-ха-!—засьмеяўся рэдактар.—Я, пане, ні так хмура гляджу на рэчы. А на агул жа—«порвалась цѣпь великая, порвалась и ударила однимъ концомъ по барину, другимъ по мужику.»

— Дазволіце, пане рэдактару, напісаць аб нашай гутарцэ?

— Напісаць? Гм... на што, дзеля чаго ж...

— Замiж скрыптаў, пане.

— А... гм... пішыце, калі ласка.

**А. Новадворскі.**



* * *

Мілы сэрцу майму ўсходы
Жыта рутнаго й травіцы
На кусочках агародаў,
На кавалачках зямліцы.

Нібы стужкі йдуць палоскі,
Агароды быццам клеткі,
А на іх вакол у росках
Зелянь сьвежая палеткаў.

Тут і там стаяць вярбіны,
Там і тут відны кусточкі:
Гул разносіцца пчаліны,—
Пчолы лётаюць, як точкі.

Вунь тасемкаю імчыцца
Жарало вады крынічнай,
Век ні можучы спыніцца
У даль кашціся прывычна.

Хлебаробаў, нібы зоркі,
Гэтта зораць усюды вочкі,
Аглядаючы узгоркі,
Рэчку, вербы і кусточкі.

І, як сонцо праме робе
І к зямлі у ім нясецца,
Так надзея хлебароба
Адбівае сьветам ў сэрцы.

Гэй, вы, нівы, агароды,—
Краю роднаго кусочкі!
Паднімайце к небу ўсходы,
Край збагацце па куточках.

Толькі нівамі раднымі
Страва веры нам даецца,
Толькі ўсходамі жывымі
Край шчасьліўшым астаецца.

**Цішка Гартны.**



## У рэстаранi.

«Гаспадар, а гаспадар! Што гэта такое!?
Клічэ госьцік рэстарану вельмі у ніпакою:
«У бульоні, што падалі,—ці ж то можна гэтак?!
Еўшы, чуць я ні глынуў шпонку ад манжэтак!»

«Ці ж сапраўды? Ох-ці-іой, выбачай, мой пане!
Але усё-ткі—проша есьці. Гэта-ж сёння зрання
Сын гуляў, згубіў дзьве шпонкі,—я іх так шкадую!
Хай пан есьць,—мо' часам знойдзе шпоначку другую.»

**Альберт Паўловіч.**



# Розныя весткі.

### Вялікарускі барбарызм.

Маскоўская газэта «Заря Россіи» за 20-е чэрвеня паведамляе:

У нідаўна адтрыманым з Растава-на-Дану нумары газэты «Вѣстникъ Добровольческой Арміи» надрукованы новыя падрабіцы пахавання вядомаго генэрала Карнілава, яшчэ нібыўшыя у друку. Вось як апісуе гэтае зьяўленне чалавек, бачыўшы усё гэта на свае уласныя вочы:

Посьля адходу карнілаўскай арміі с-пад Екатарынадару, большэвікі, трапіўшы да станіцы Елісаветынскае, пракапаліся на-воч, што Карнілаў пахован на цьвінтары, што падцьвердзіў і тутэйшы сьвяшчэннік. Радасьці большэвікоў ні было канца і зараз жа было ухвалено адправіць цело слыннаго контр-рэвалюцыянэра да Екатарынадару дзеля агляду яго «рэвалюцыйным народам».

І, дапраўды, па Чырвонай вуліцы пасувалася працэсія, сваім выглядам адсунуўшая нашае жыцце на нешколькі вякоў назад. Дзікім здаваўся борзда-мчаўшы электрычны трамвай сярод дзікаго малюнку, каторы уяўляўся перапалоханаму інтэлігенту.

Ціха пасуваліся драбіны, абкружаныя людзьмі конна у прыгожых гарнітарах з густа вышэцканымі сопухаю тварамі і з мётламі ў руках. На драбінах, накрыты рагожаю, лежаў у ісподняй бялізьне труп Карнілава, як мошна абвешчалі скакаўшыя навокала дзікры. Запрэжанаму у драбіны каню былі заплецены у грыву чырвоныя стужкі, а да хваста прычэплены генэральскія эпалеты. Увакол драбін натоўп бабаў, прыбраных чырвонымі стужкамі з венікамі, качэргамі і рыдлёўкамі у руках, далей—мужчыны з гармошкамі і балалайкамі у руках. Усе гэта сьпевало, іграло, сьвістало і лушчыло сланэчнікі. Працэсія паціху пасувалася па вуліцы. Хто хацеў, падыходзіў ды плеваў і зьдзекаваўся с трупа, радуючыся, што хутка угледзіць, як будзе смажыцца труп на агні. Нарэсьці труп падвязьлі да вакзалу Чорнаморскай ж. д.. Натоўп хвалюецца, усе жадаюць бачыць, як будуць паліць на кастрэ генэрала. Бабы з дзяцьмі праціскаюцца на перад. Труп зьнімаюць з драбінаў ды кладуць на шурку дроў, аблітую газай.

Праз колькі часу натоўп пачаў разыходзіцца ад едкаго дыму, а больш цікавыя астаюцца каля кастра.

Усё гэта напамінае далёкія часы барбарызму.



# Гандлевы абмен з Украінай.

Гандлёвая Беларуская Ізба (Палата) на Украіне выдала акольнік гэтакаго зьместу:

«Беларуская Гандлёвая Ізба на тэрыторыі Украіны бажала-б ужыць усіх заходаў для таго, каб наладзіць і зрабіць лягчэйшым абмен таварамі паміж Украінай і Беларусью, што патрэбна зьдзейсьніць у найкарацейшым часе, маючы на увазі вострую патрэбу у рэчах харчавання і другіх таварах, якая заўважаецца у шмат якіх мейсцох Беларусі. Але у сваёй чыннасьці Ізба спаткалася з натта значнаю перашкодаю. Прыежджаючыя сюды з Беларусі прэдстаўнікі харчовых земскіх і меськіх управаў прыбываюць на Украіну з мэтай адтрымаць тавары, асабліва рэчы харчавання у абмен на грошы. Наогул, адсюль харчовыя, асабліва хлебныя прадукты адтрымаць натта цяжка. Каліж адтрыманне іх і магчымо, то толькі у абмен на тавары, выробленыя на Беларусі. Дзеля гэтаго трэба пры усякіх зваротах за прадуктамі на Украіну мець весткі ні толькі аб тых рэчах, якія могуць быць адпушчаны з Беларусі, але і пэўныя данныя аб іх колькасьці і аб часе, калі яны могуць быць адпраўлены на Украіну. Ведамасьці могуць быць ні толькі аб гатовых таварах, але і аб тых, якія могуць быць прыгатаваны у пэўны тэрмін. Трэба прапанаваць магчыма большую лічбу тавараў, уважаючы на востры стан харчоваго пытання.

Тутака цэны стаяць добрыя і маюць тэндэнцыю падніміацца у гару, то вываз сюды нашых тавараў можа быць выгодным.

Усе гэтыя данныя у Кіяў павінны прывозіць прэдстаўнікі управаў і перадаваць іх у Ізбу. Дасьвядчэнне паказало, што асобныя просьбы аб отпуску прадуктаў ні маюць усьпеху перад Украінскім Урадам, альбо найменей задавольняюцца. Продаж прывозных тавараў у асобіцу аказаўся ніўдачных. Дзеля таго харчовай Управе прапануецца выступаць праз Ізбу, каторая, з свайго боку, учыніць усе заходы к здавольненню попыту, бо яна зьяўляецца офіцыяльнай Установаю Беларускаго Ураду, прызнаннаго Украінскім Урадам.

Для прадуктаў, якія выробляюцца на хвабрыках і заводах і могуць быць прададзены с працягам часу, Ізба прыймае на сябе прэдстаўніцтво па іх продажы пры найвыгоднейшых варунках. Таму, *бажано, каб хвабрыканты і заводчыкі давалі Ізбе право прэдстаўніцтва на збыт сваіх прадуктаў.*

Каб управы ні маглі прыслаць свае прэдстаўніцтвы, то прапануецца усе зносіны весьці у пісьменай форме.

У абмен на нашыя прадукты можна будзе дастаць право на вываз харчовых прадуктаў і усякіх іншых. Дзеля гэтаго гандлёвыя фірмы могуць праз сваіх прэдстаўнікоў, альбо безпасрэдна у пісьменай форме, перасылаць Ізбе свае заказы на патрэбныя ім прадукты с вызначэннем колькасьці, гатунку і найбольшых цэнаў, дзе гэта апошняе запатрабуецца. Між іншым жадана было б у найхутчэйшым часе высьніць заказы на касьпійскую рыбу соль і інш.

Тыя тавары, якія ужо маюцца, абезпэчаныя збытам, могуць безпасрэдна перасылацца на імя Ізбы, дзе будуць адпускацца з яе складаў. Трэба толькі, каб харчовыя управы рабілі пэўны падрахунак адпраўленых с таварамі простай дарогай у Кіеў вагонаў, каб забезпечыць іх зварот. Вагоны тут патрэбны у данны момэнт, бо ёсьць надзеі на атрыманне донскаго хлеба. Ішчэ адна засьцярога для харчовых Управаў: трэба мець пасьвядчэнні ад нямецкіх окупацыйных уладаў, аб тым, што данная мейсцовасьць мае патрэбу ў прадуктах.»

У канцы дадано, што Ізба, як офіцыяльная установа Рэчы Паспалітай Беларускай, бярэ найнізшы процэнт—ад 2 да 5%

Прэзэс *М. Доунар-Запольскі*, сябар Ізбы: *Н. Базарэвіч.*

Загадчык спраў: *Херчэт.*»

# Памяткі старасьвецкай беларускай мовы і пісьменства.

Усе княжацкія граматы (за нізначным вылучэннем), усе урадавыя паперы у Вялікім Князстве Літоўска-Беларускім да канца XV-го веку пісаліся у беларускай мове. Толькі с канца XVI веку, т.-е. посьля Люблінскай вуніі, пападаюцца дакумэнты, напісаныя па-латынску і па-польску. Цэлыя тысячы беларускіх грамат Літоўска-Беларускаго князства цяпер выдрукованы у выданнях Расійскіх археографічных камісій і яшчэ шмат іх застаецца у рукапісах. Тры выданні Літоўскаго Статуту (Беларускія дзяржаўныя законы) пісаны у беларускай мове. Быў выданы нават закон, каб усе дзяржаўныя і прыватныя акты для Літоўска-Беларускаго князства пісаліся у беларускай мове. Літоўскі Статут у роздзелі IV, артыкулі I пастанаўляе, каб усе акты пісаліся у беларускай мове і беларускімі літэрамі («А писаръ земъский масть по руску литерами и словы рускими вси листы и позвы писати, а не иншимъ езыкомъ и словы.»); артыкул 37 трэбуе, каб у судзе былі людзі, ведаючыя беларускую мову, або, як тагды казалі, р у с к і  я з ы к. У рукапісным экзэмпляры Літоўскаго Статуту, знайдзеным у быўшай Віленскай Акадэміі, посьля прадмовы і спісу зьместу, ёсьць гэтакі верш:

Полска квитнетъ лациною,
Литва квитнетъ Русчизною;
Безъ той въ Полсце не пребудешь,
Безъ сей въ Литве блазнемъ будешь.
Той лацина езыкъ даетъ,
Та безъ Руси не втриваетъ.
Ведзь же южъ Русь, ижъ тва хвала
По всемъ свете южъ дойзрала.
Веселижъ се ты, Русинe,
Тва слава никгды не згине!

Я. Л.

Рэдактар Я. Лёсік.



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.